№ 170 (752)

Серада, 15 верасня 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 20000 руб., па падпісцы — 11000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...
Якуб Колас



SOS!

## Гандаль кветкамі скончыўся для былога дацэнта радыётэхнічнага інстытута і яго жонкі арыштам і адсідкай

Той цёплай верасьнёўскай раніцай Вольга Піліпаўна і Мікалай Барысавіч наважыліся на Камароўку. Зрэзалі ў агародзе яшчэ мокрыя ад расы астры і вяргіні і паехалі на базар. Але з падземнага пераходу, што побач з гандлёвымі шапікамі, іх "папрасілі". На самім базары яны не пастаялі і пяці хвілінаў: выправадзіў дзяжурны міліцыянт. Тады вырашылі спыніцца ля ўваходу: гэта звычайнае месца ўсіх гандляроў. "А чым мы горшыя за іншых?" — і пачалі распакоўвацца. Але так і не паспелі, бо падышлі міліцыянты і загадалі ісці адсюль. "Добра, добра, зараз толькі абатру сумку ад вады," — мяккая і далікатная Вольга Філіпаўна заўжды старалася пазбягаць канфліктаў. Нервовы службоўца ўскіпеў і схапіўся за ручкі сумкі. Жанчына, натуральна, пачала яе цягнуць да сябе. У выніку ручкі парваліся і Вольга Піліпаўна павалілася на прыступкі, збіўшы бабульку, якая стаяла побач.

"Мяне пачалі штурхаць і ледзь не парвалі сукенку. Мужу разбілі губу. Пасля завялі ў міліцэйскі пакой і пасадзілі мяне ў "клетку", — кажа праз слёзы жанчына. Прад'явілі пратакол і перадалі справу ў суд, які паставіў 5 мільёнаў штрафу. "Дык гэта ж палова маёй пенсіі! І ўвогуле ў мяне няма такіх грошай!" Але служкі Феміды не разгубіліся і "пашкадавалі" старых: прызначылі мужу і жонцы некалькі сутак арышту.

Зразумела, за кратамі ўмовы не цяплічныя. Таму не дзіўна, што ў 60-гадовай Вольгі Філіпаўны і 72-гадовага Мікалая Барысавіча пачалі абвастрацца ўсе хваробы. Праз некалькі дзён жанчына даведалася, што яе мужа забрала "Хуткая". "Я так за яго хвалявалася: а што з ім? А як ён там? Ціск падняўся, што дыхаць не магла..."

Вольга Піліпаўна выйшла з-за кратаў, абняла мужа і дзякавала Богу, што нарэшце ўсё скончылася. Ведала б яна, што працяг у гэтай гісторыі яшчэ будзе...

Там, у турме, засталіся дакументы Мікалая Барысавіча. Жонцы іх не аддалі, хаця і абяцалі. Паехаў за імі сам. Паехаў — і не вярнуўся. Яму ўдалося патэлефанаваць Вользе Піліпаўне і паведаміць, што яго зноў арыштавалі. Маўляў, дзядулька, ты сваё яшчэ не адседзеў.

Ну хіба не абсурд?

З кім вы змагаецеся, спадары шаноўныя? З тым, хто ў крывавых саракавых аддаваў сваё жыццё дзеля мірнай будучыні? Ды не займаўся б стары чалавек ніякім гандлем, калі б была людская пенсія...

Калі былы дацэнт радыётэхнічнага інстытута адбываў за кратамі чарговыя суткі, яго жонка горка плакала. Давядвацца пра стан здароўя мужа ісці баялася: а раптам доблесныя супрацоўнікі міліцыі вырашаць, што і яна сваё яшчэ не адседзела?..

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**

Дэмакратыя па-беларуску

## Небяспечная "макулатура"

На мінулым тыдні падчас апазіцыйнага пікету быў схоплены сябра "Маладога фронту" Зміцер Бунчук. Мясцовым супрацоўнікам міліцыі, відаць, не спадабалася тое, што хлопец актыўна распаўсюджваў маладафронтаўскае выданне. Як нам паведамілі ў праваабарончай камісіі МФ, Бунчука даставілі ў Партызанскі РАУС, дзе газету канфіскавалі. Але грунтоўна азнаёміўшыся з яе старонкамі, міліцыянты змянілі сваё меркаванне: прызналі выданне прыгодным для распаўсюджвання падчас пікета. Таму хлопца адпусцілі, а канфіскаваную літаратуру вярнулі.

**Вольга МАЦЮШЭЎСКАЯ.**

Як яно было

*Іван ФУРСЕВІЧ, пенсіянер, былы ўрач*

## Я помню восень трыццаць дзевятага...

Аб тым, што над Еўропай згушчаюцца хмары другой сусветнай вайны, мы, адзінаццацігадовыя падлеткі, ведалі мала: у школе паўшэхнай, дзе мы тады вучыліся, палітінфарацыяў не было; замест іх быў Закон Божы. Але дарослыя вечарамі на прызбах зацікаўлена абмяркоўвалі падзеі, якія адбываліся ў свеце. Нас да гэтых гутарак надта не дапускалі. А калі немцы захапілі Аўстрыю і Чэхаславакію і кавалачак яе аддалі Польшчы, чаму польская прэса вельмі радавалася, нашым вяскоўцам стала зразумела, што вайна не за гарамі. Праўда, яна была недзе далёка і рэальна не ўспрымалася — дзе тыя немцы і дзе тая Аўстрыя?

Пасля захопу немцамі "вольнага места Гданьска" сяляне сталі дапускаць, што захопнікі могуць пайсці і на Польшчу. І можа, зноў давядзецца ісці ваяваць. А шмат хто з іх яшчэ добра памятаў і Сувалкі, і Карпаты. Памяталі мінулую, першую сусветную вайну, не толькі мужчыны, а і жанчыны. Бабуля і мама не раз расказвалі, як праз нашу вёску пракаціліся спачатку немцы, пасля Саветы, а за імі палякі. На полі захаваліся сляды ад зямлянак, у якіх мы знаходзілі патроны... Вайна была знаёма амаль усім...

Але вайны ў нас не надта і баяліся. Бо нічога тады не ведалі пра Пакт Молатава — Рыбентропа. Усе былі ўпэўнены, што сюды прыйдуць не немцы, а Саветы, і нас яны ў крыўду не дадуць. Гэтая ўпэўненасць грунтавалася на ўяўленні аб СССР як краіне, дзе ва ўладзе рабочыя і сяляне, якія толькі і мараць, каб вызваліць нас ад гнёту паноў і падпанкаў. Гэтая вера падаграваляся агітацыяй мясцовых камуністаў-падпольшчыкаў і агіткамі, якія траплялі ў вёску з Расіі. Ды і савецкае радыё сёй-той слухаў. І словам з Масквы і Мінску людзі верылі тады больш, чым сабе.

...Падзенне Польшчы прадказала мая баба Альжбета. Недзе за месяц да пачатку сусветнай вайны, прачнуўшыся раніцай, расказала дзіўны сон: быццам бы на горцы стаялі, як у мястэчку, два храмы — каталіцкі касцёл і праваслаўная царква. Раптам касцёл рухнуў і рассыпаўся, а царква як стаяла так і стаіць. Падумаўшы, баба Альжбета сказала: будзе вайна, і Польшча падзе. Да гэтых бабіных прароцтваў усе мы паставіліся несур'ёзна — мала што прысніцца старой, якая і чытаць не ўмела...

А пачалася вайна для нас зусім ціха. Прыйшоўшы першага верасня ў школу, мы пачулі ад настаўнікаў страшную вестку. Нас адпусцілі дамоў, але на другі дзень заняткі пачаліся як звычайна. Толькі зніклі некалькі маладых настаўнікаў ды з дзесятак хлопцаў-рэзервістаў з вёскі.

Жыццё ў вёсцы быццам не змянілася. Мужыкі касілі атаву, дзеці вучыліся. Толькі з адчыненага акна ў панскім двары, што знаходзіўся з паўкіламетра ад нашага сяла, з ранку да вечара гучала бравурная музыка. Сяляне ўсміхаліся: Польшча развальваецца, армія адступае, а "ў Варшаве" танчаць...

Хоць вайна ўжо бушавала ваўсю, яна здавалася нам нейкай далёкай. Мо і не дакоціцца да нас?

Праз тыдзень аж з-пад Познані прыбегла дамоў вясковая кабета, якую выпусцілі палякі з турмы ў першы ж дзень вайны. Яна бегла наперадзе фронту, але жахаў нагледзелася, і яе расказы перадаваліся ў вёсцы, як зводкі з фронту. Газет тады ў вёсцы не выпісвалі, радыёпрыёмнікаў было толькі два. Весткі і чуткі аб вайне перадаваліся сялянамі з вуснаў у вусны на прызбах вечарамі. Усе чакалі Саветаў.

І яны прыйшлі! Раніцай 17 верасня мы прачнуліся ад моцнага гулу, што чуўся з Усходу. Усе павыбягалі на двор. Па прасёлачнай дарозе з-за Нёмна рухаліся вялікія жалезныя машыны — чолгі (так па-польску называліся танкі). Уздымаючы слупы пылу, яны плылі паўз нашу хату. Чолгі мы бачылі ў газетах, але страху ў нас чамусьці не было. З адкрытых люкаў, высунуўшыся амаль па пояс, як блізкім ці добра знаёмым, прыветна махалі нам вясёлыя хлопцы ў чорных камбінезонах і шлемах.

Адразу ж па вёсцы папаўзлі чуткі, што ў танках бачылі нашых вясковых хлопцаў, якія некалькі гадоў патаемна пайшлі ў Саветы за лепшай доляй. Бацькі іх радаваліся і сталі рыхтавацца да сустрэчы дарагіх сыноў. Але, на жаль, за два гады існавання Саветаў ні адзін з тых хлопцаў не толькі не завітаў у госці, але і весткі не прыслаў. Праз паўвека бацькі даведаліся, што ўсе яны, як "польскія шпіёны", палеглі ў Курапатах.

...Наступіла ўсеагульнае свята, якога так доўга чакалі беларусы на Крэсах усходніх. Радаваліся шчыра, бо шчыра верылі — усяго за сем кіламетраў ад нас, у Савецкай Беларусі, даўно жывуць заможна і шчасліва.

Спынілася праца ў полі, спыніліся заняткі ў школах. Дарослыя кінуліся ў Стоўбцы. Увесь горад быў запоўнены савецкай ваеннай тэхнікай. Сяляне з адкрытымі ад здзіўлення ратамі разглядвалі танкі і грузавыя машыны, якіх у нашай пагранічнай глушы не кожны і бачыў. Байцы і камандзіры былі такімі ветлівымі, усіх частавалі махоркаю. Праўда, махорка нікому не спадабалася, бо была, як дробна нарэзаная сечка з саломы. У вёсцы такой махоркі ніхто не бачыў, у нас курылі добры тытунь.

На плошчы бесперапынна ішоў сход-мітынг, дзе камісары расказвалі аб гераічнай Чырвонай Арміі, якая, выконваючы волю савецкага народа, падала руку дапамогі братам — заходнім беларусам і ўкраінцам, прынесла ім свабоду.

Аб усім гэтым бацька з захапленнем расказваў вечарам, вярнуўшыся са Стоўбцаў. З сабою ён прынёс газету з вялікім партрэтам Сталіна, які стаяў на трыбуне з прывітальна ўзнятай рукою. Гэты партрэт ён адразу павесіў на сцяне побач з абразамі. А вялікі каляровы плакат, дзе абдымаўся чырвонаармеец з заходнебеларускім селянінам у вышытай кашулі, мы павесілі на другой сцяне.

У газетах, якія трапілі да нас тады, была надрукавана песня "Если завтра — война". Яна адразу стала, як цяпер кажуць, шлягерам. Надта ж падабаліся словы — "мы войны не хотим, но себя защитим, и на вражьей земле мы врага разобьем малой кровью, могучим ударом". І хаця мы не ведалі, што такое "лінкоры" і "тачанкі", пра якія там спявалася, мы гарлапанілі гэтую песню з вялікім уздымам. Хутка пачулі і знакамітую "Катюшу", і "Три танкиста", і "Дан приказ: ему на Запад".

У мястэчку, а пасля і па ўсіх вёсках не спыняліся амаль штодзённыя сходы-мітынгі. У нас яны праходзілі ў пажарнай адрыне — вялікім будынку, дзе захоўваўся пажарны інвентар, а таксама праводзіліся вясковыя сходы, ставіліся спектаклі і канцэрты мастацкай самадзейнасці. На гэтыя сходы-мітынгі хадзілі, як на фэст, святочна апранутыя і ўсёй сям'ёю. Дарослыя з даверам слухалі камісараў, якія горача расказвалі аб райскім жыцці савецкіх людзей пад сонцам сталінскай Канстытуцыі. Усё пачутае на мітынгу пасля горача абмяркоўвалася па дарозе дамоў і дома.

Мы, падлеткі, прамоў гэтых не слухалі — на дварэ шчоўкалі гарбузы ці пражаны гарох і чакалі бясплатнага кіно, якога пры Польшчы ніколі не бачылі. Падчас дэманстрацыі фільмаў мы па-першым часе інстынктыўна палохаліся, калі з экрана на нас неслася машына...

У вёску сталі паступаць бясплатныя газеты, якія ўсе прагна чыталі, з нецярплівасцю чакаючы наступлення новага шчаслівага жыцця, пра якое чулі і чыталі.

Яно пачалося са школы. У ёй усё стала сапраўды новым. Перш за ўсё настаўнікі — былыя местачковыя вяскоўцы, якія заканчвалі настаўніцкія семінарыі яшчэ пры цары і якім палякі не давалі працы, патрабуючы прыняцця каталіцкай веры і пераходу "ў палякі".

Новымі сталі падручнікі і сшыткі, якія нам выдалі бясплатна. Новымі сталі і праграмы, у іх, як у інстытуце, было аж тры мовы, алгебра і геаметрыя, фізіка і біялогія, геаграфія і гісторыя. Усё выкладанне пачалося на беларускай мове! На ёй загаварылі і новыя, і старыя настаўнікі. Хаця раней на роднай мове мы размаўлялі дома і ў школе (акрамя ўрокаў), але амаль ніхто з нас не ўмеў па-беларуску ні пісаць, ні чытаць. Таму ўсім, нібы першакласнікам, трэба было вучыцца пісаць літары і словы. У сувязі з гэтым нас адсадзілі на адзін клас назад, і мы сталі другагоднікамі.

Вучыцца было цяжка, але цікава. Асабліва падабалася беларуская літаратура. Калі чыталі "Новую зямлю", то ўспрымалі яе не як паэму, а як карціны сапраўднага нашага жыцця. Мы ж з Коласам землякі! "Зялёны луг, як скінуць вокам" пачынаўся адразу за нашай школай. Акінчыцы і Альбуць былі ўсяго за які кіламетр, і мы іх бачылі праз школьнае акно.

У польскай школе мы вучылі "Свіцязянку" і "Гражыну" вялікага Адама Міцкевіча. Яны ўспрымаліся намі, як прыгожыя літаратурныя творы. А Колас быў само жыццё...

Вёска паступова вярталася да свайго звыклага жыцця. Сходы, на якіх кожны раз паўтаралася адно і тое ж, хутка надакучылі. А пасля, калі сталі туды клікаць пад распіску, бацькі пасылалі нас, падлеткаў. Мы нічога з гэтых "дакладаў" не разумелі і не маглі пераказаць бацькам, аб чым цэлую гадзіну манатонна чытаў па паперцы чарговы аратар. Па вёсцы папаўзлі чуткі аб зусім іншым, чым расказвалі лектары, жыцці ў калгасах. Аб гэтым даведваліся, наведваючы Мінск. Праўда, туды не надта пускалі. На цягнік трэба было атрымаць пропуск. А праз мяжу па дарозе не прапускалі пагранічнікі. Але яны засталіся толькі на шашы, і сяляне ездзілі ўпотай праз гэтую, здавалася б, ужо былую мяжу, па лясных дарогах, якія добра ведалі.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

Память

*Людмила КАРПЕНКО:*

## "Это была смерть на взлете"

*17 сентября Геннадию Карпенко исполнилось бы 50 лет. Он был надежным другом для многих людей, добрейшим человеком, крупным политическим деятелем, ученым и публицистом, любящим мужем, отцом и дедушкой...*

*Накануне юбилея мы встретились с его вдовой Людмилой Карпенко. Как уже сообщалось в печати, она стала президентом Международной общественной организации имени Геннадия Карпенко. Буквально несколько дней назад Минюст зарегистрировал эту организацию, а также Международный благотворительный фонд имени Геннадия Карпенко.*

**— Людмила Филипповна, я понимаю, что это болезненный для Вас вопрос. Но, тем не менее... Давайте представим, что Геннадий Дмитриевич жив, ему исполняется 50 лет... Что бы Вы сказали ему в день юбилея?**

— И в самом деле вопрос очень сложный. Для меня, детей, всех близких людей смерть Гены — тяжелейшая трагедия. Я помню очень хорошо каждую деталь последнего его прижизненного дня рождения... Как это было недавно!

**— Что происходило в тот день, 17 сентября минувшего года?**

— Начали раздаваться звонки, вероятно, часов с пяти утра... Он не успевал отвечать на поздравления. А потом приходили люди... Один за другим. Друзья, соратники, соседи, избиратели из нашего района. Вы знаете, я даже до сих пор не понимаю, как он мог находить время общаться со всеми... Однажды к нам должны были прийти представители очень высокой международной организации. Оставалось всего полчаса до их прихода, а Гена вдруг спохватился: "Мне надо уйти". "Куда?" — спрашиваю. "Ненадолго, тут рядом, "в районе слепых", умерла женщина. Ровно сорок дней назад. Я должен к ним зайти. Это был очень хороший человек".

Он вернулся, когда у нас уже были гости. Был мрачен, рассеян. Только и сказал: "Уходят очень хорошие люди".

**— И все же... Что бы Вы пожелали ему в день юбилея?**

— Оставаться таким же открытым, добрым человеком, но все же более жестким по отношению к окружающим...

**— Что Вы имеете в виду?**

— Он в каждом стремился видеть друга, честного человека. Он был слишком доверчив. А в результате некоторые близкие, казалось бы, люди предавали, оказывались по другую сторону его жизненных интересов... Мне сегодня очень трудно, нелегко говорить об этом.

**— Людмила Филипповна, расскажите, пожалуйста, о последних днях Геннадия Дмитриевича.**

— Ничто не предсказывало беды. Он был воодушевлен, полон планов, много встречался с самыми разными людьми, хорошо себя чувствовал. Я радовалась за него. Видела, что он был на подъеме. Он убедился, что поступил правильно, отказавшись от участия в президентских выборах. Он с самого начала не верил в реальность выборов президента в этом году, в дееспособность параллельного центризбиркома... Хотя в то время очень многие люди, даже из ближайшего окружения Гены, убеждали, что он должен непременно участвовать в этих выборах. И сегодня особенно стало ясно, насколько он был тогда прав... Каким-то особенно окрыленным приехал он из Праги, затем из Финляндии. Геннадий Дмитриевич серьезно готовился к участию в крупном международном форуме в Варшаве, куда были приглашены главы крупнейших государств мира, известные политические деятели. От нашей страны на форум должны были ехать министр иностранных дел Латыпов и Карпенко...

**— Говорят, Геннадия Дмитриевича можно было спасти?**

— Трудно сказать. Было упущено драгоценное время. Когда Геннадия Дмитриевича привезли в больницу "скорой помощи", там не оказалось томографа. Словом, это была смерть на взлете.

**— Что, на Ваш взгляд, отличало Геннадия Дмитриевича от других оппозиционных политиков?**

— Вопрос тоже непростой. Мне не хочется никого обидеть, и все же подчеркну: власть не была для него самоцелью. Он готов был быть в интересах общего дела вторым, третьим, четвертым... Он готов был идти на разумные компромиссы с властью. Сколько раз руководимый им Национальный исполнительный комитет выступал с предложением провести переговоры с правительством, сколько экономических программ было разработано комитетом. Для него борьба ради борьбы просто не существовала. Он был готов работать со всеми ради одного — построения в нашей стране цивилизованного демократического общества, улучшения жизни людей. Всегда в мрачном настроении он приходил из магазинов, говорил, что не может без боли смотреть на стариков, которые едва наскребали деньги на хлеб и обезжиренное молоко... Он покупал старикам лекарство и продукты, заботился об инвалидах. А у самого в кармане иногда не было ни копейки. Он ведь так и умер безработным... Ссылаясь на распоряжение Лукашенко, ему не выплачивали доплату как члену-корреспонденту Национальной академии наук...

**— Что, по-вашему, притягивало к нему людей?**

— Это был человек сопереживающий, я сказала бы, глубинно и настолько искренне, что в наше время это выглядело порой неправдоподобно. Очень многие люди подтвердят мои слова о том, что это был преданнейший друг, бескорыстный, всегда готовый не прийти, а броситься на помощь другому. И очень многие могут сказать, не кривя душой: "Это был мой лучший друг". Просто уж такой он был человек.

**— И последний вопрос. Как вы будете отмечать этот грустный для всех нас юбилей?**

— 17 сентября состоится вечер памяти Геннадия Карпенко. На нем выступят его друзья, соратники, артисты... Мы будем говорить о нем как о живом...

**Беседовал Владимир ГЛОД.**

**На снимке:** *Людмила Карпенко получает в Министерстве юстиции Республики Беларусь свидетельство о регистрации Международной общественной организации имени Геннадия Карпенко.*

**Фото Юрия ИВАНОВА.**

## Ялта не приняла Лукашенко, зато Киев рад белорусской оппозиции

С 9 по 11 сентября в Киеве состоялся второй Паневропейский форум, организованный Европейской народной партией и Христианско-демократическим Интернационалом, в котором приняли участие представители партий, депутаты национальных парламентов из 13 государств, а также члены Европарламента международных организаций. От Беларуси в форуме принимали участие заместитель председателя ОГП, депутат Верховного Совета Анатолий Лебедько, член Координационного Совета БАМП Кирилл Игнатик.

Во вступительной речи Вилфрид Мартенс, в течение 12 лет возглавлявший правительство Бельгии и являющийся в настоящее время председателем Европейской народной партии, которая выиграла этим летом выборы в Европарламент, отметил, что "Беларусь находится в руках сталиниста". По итогам форума принята резолюция, которая содержит пункты в поддержку суверенитета Беларуси и требования освобождения депутатов Верховного Совета А.Климова и В.Кудинова.

Анатолий Лебедько провел ряд встреч с руководителями фракций Верховной Рады Украины и представителями Европарламента.

**Пресс-служба БАМП.**

## Працягваецца прыкметнае падзенне сельскагаспадарчай вытворчасці

Спад сельскагаспадарчай вытворчасці за студзень—жнівень склаў 10,2 працэнта да ўзроўню такога ж перыяду 1998 года. Аб'ём грузаперавозак за гэты час знізіўся на 3,3 працэнта, інвестыцыі ў асноўны капітал — на 3 працэнты.

Спажывецкія цэны з пачатку 1999 года выраслі ў 2,11 раза, у тым ліку за жнівень — на 7,1 працэнта (у ліпені 1999 года — на 6 працэнтаў).

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Афоризмы

* Знающий — не говорит, говорящий — не знает.

* Очень трудно налить воду в чайник, не открыв крышку.

* Пишут — писатели. Читают — читатели. Владеют — практики.

* Если есть что сказать, то лучше промолчать.

* Кто сказал, что в споре рождается истина? Споры вообще не для этого предназначены!

* Стрельба из лука учит нас, как надо искать истину. Когда стрелок промахивается, он не винит других, а ищет вину в самом себе.

* Не взять то, что даровано Небом, значит себя наказать. Не действовать, когда приходит время, значит себя погубить.

Надвор'е

15—16 верасня па краіне захаваецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, толькі ўдзень 16-га — на паўднёвым захадзе пройдуць невялікія дажджы. Вецер паўночны, з пераходам на ўсходні — 3—8 м/с. Тэмпература паветра ўначы — +1...+6, на глебе і месцамі ў паветры — замаразкі да 0...-3; удзень — +11...+16.

Пр. Антона, Багдана, Івана, Фядоса, Фядота.
К. Альбіны, Нікадзіма.

70 гадоў з дня нараджэння (1929) А.М.Кашкурэвіча, беларускага графіка.

ВЕРАСЕНЬ
15
'99 СЕРАДА

☉ Усход 6.42, Захад 19.25, Даўж. дня 12.43
☽ Перш. квадра 17 верасня, Усход 13.43, Захад 22.47

## Падпіска на "Народную волю" прадоўжана да 20 верасня

**Нагадваем: улічваючы збяднеласць людзей, рэдакцыя ўвяла льготны індэкс 63429 для пенсіянераў, інвалідаў, а таксама тых падпісчыкаў, хто быў з намі на працягу ўсяго І поўгоддзя ці ІІІ квартала гэтага года. Кошт на "Народную волю" па гэтым індэксе — 360.000 рублёў на месяц, 1.080.000 рублёў — на ІV квартал.**

**Тыя ж, хто вырашыў далучыцца да нас з 1 кастрычніка, маюць магчымасць аформіць падпіску па ранейшым індэксе 63222 за 420.000 рублёў у месяц.**

**Індэкс 63225 — ведамасны: ён для прадпрыемстваў і арганізацый пры падпісцы коштам 800.000 рублёў на месяц.**

**Багатыя людзі! Дапамажыце бедным падпісацца на "Народную волю".**

**Дабрачынныя фонды! Не пакіньце без "Народнай волі" тых, у каго вялікія матэрыяльныя цяжкасці.**

**Вы — з "Народнай воляй", "Народная воля" — з Вамі!**

Постфактум

## Василий Леонов проходит в СИЗО курс лечения

2 сентября у содержащегося под стражей Василия Леонова, чье дело рассматривается в Верховном суде, усилились боли в суставах. На следующий день, в пятницу, обвиняемый заявил ходатайство об объявлении перерыва в судебном заседании для прохождения курса лечения своей хронической болезни — артроза.

В понедельник на процессе была оглашена справка медсанчасти СИЗО, подписанная врачом И.Кривонос, о том, что по состоянию здоровья В.Леонов может присутствовать в суде и давать показания. Хотя, по словам Леонова, врач не только не осмотрела больного, но даже не говорила с ним.

Суд сделал повторный запрос и 7 сентября огласил новую справку из СИЗО, аналогичную первой. Правда, на этот раз В.Леонову, по его словам, измерили давление. Видимо, медики, работающие в местах лишения свободы, считают, что подсудимый не в состоянии давать показания только в одном случае — если он находится без сознания. Испытываемые же арестантом страдания в расчет ими явно не принимаются. Судя по всему, тюремные медики незнакомы с Конвенцией ООН против пыток, согласно которой действие или бездействие должностного лица, в результате которого человеку причиняется сильная боль или страдание, классифицируется как пытка.

На этом процессе уже приходилось прибегать к положениям данной Конвенции, когда выяснилось, что существует некая инструкция, не предусматривающая доставку обеда для подсудимых в течение первых 10 дней судебного процесса и запрещающая в эти же дни передавать им принесенные родственниками продукты и воду.

К чести Верховного суда, он оперативно отреагировал на ситуацию как в первом, так и во втором случаях. Подсудимого Леонова стали кормить уже на третий день судебного процесса, а 7 сентября суд объявил перерыв в судебном заседании до 16 сентября для прохождения Василием Леоновым необходимых процедур.

Решение вопроса о вынесении частного определения суда по поводу упомянутой инструкции МВД отнесено на окончание рассмотрения настоящего дела по существу.

**Борис ЗВОЗСКОВ, общественный защитник В.Леонова от Белорусского Хельсинкского комитета.**

Тревожно!

## Чеченские теракты докатятся до Минска?

Один из самых видных чеченских террористов — полевой командир Хоттаб заявил в интервью журналистам, что террористические акты, которые проводят сейчас в отместку за войну в Чечне и Дагестане специальные группы, охватят не только Москву. На очереди якобы Санкт-Петербург, Ростов, Ставрополь... Затем, возможно, черед дойдет и до других людных мест России.

Страшно и опасно! Похоже, что те лица в Беларуси, которые спешат объединиться в одну страну с Россией, не задумываются над последствиями. Никто не может отрицать — а вдруг чеченские командиры решат "проучить" и нашу страну? Страшно подумать о том, что и в Минске могут прогреметь взрывы...

**Владимир КОРЗУН.**

Народная Воля 15 ВЕРАСНЯ 1999 г.

## Зеркало

### Американская газета называет новые российские имена

Как сообщает газета "Ю Эс Эй Тудей", 780 российских официальных лиц — в том числе бывший вице-премьер Анатолий Чубайс и бывший министр иностранных дел Андрей Козырев — занимались продажей ГКО и переводом вырученных денег за границу накануне прошлогоднего августовского кризиса в России. "Ю Эс Эй Тудей" ссылается на данные американских, британских и российских следователей. По данным газеты, схема начала действовать через трое суток после того, как в конце июля 98-го года Международный валютный фонд перевел в Россию заем в 4 миллиарда 800 миллионов долларов. Ряд банков и официальных лиц, получив информацию о готовящейся девальвации рубля, сообщает газета, немедленно начали продавать свои пакеты ГКО и обращать рубли в доллары, используя среди прочих и средства МВФ, включенные в состав золотовалютных резервов Центробанка.

### Победа Росселя

Во втором туре выборов губернатора Свердловской области победил действующий глава администрации Эдуард Россель. По предварительным данным, Россель набрал 65 процентов голосов, а его соперник — лидер движения "Май" Александр Бурков — более 27 процентов. В выборах участвовали 37,5 процента избирателей. Против всех проголосовали более 7 процентов.

### Второе поражение немецких социал-демократов

Правящая в Германии социал-демократическая партия (СДПГ) потерпела серьезное поражение на вчерашних выборах в парламент — лантаг — восточногерманской земли Тюрингия. По предварительным данным, победил оппозиционный Христианско-демократический союз, получивший 51 процент голосов. За партию бывших коммунистов — Партию Демократического Социализма — проголосовали более 21-го процента избирателей. Социал-демократы оказались на третьем месте, получив 18,5 процента голосов. Неделю назад СДПГ проиграла на выборах в двух других немецких землях — Бранденбурге и Саарской области.

## Взорван еще один дом в Москве

В день общероссийского траура по жертвам терактов в Буйнакске и 9 сентября в Москве в российской столице произошел новый взрыв — на Каширском шоссе. 8-этажный жилой дом полностью разрушен. По мнению экспертов, мощность взрывного устройства — от 150 до 200 килограммов тротилового эквивалента. Спасатели считают, что число погибших может достичь ста человек.

Милиция в крупных городах России переведена на усиленный режим в соответствии с распоряжением министра внутренних дел Владимира Рушайло. Под особый контроль взяты вокзалы, аэропорты, школы. В Москве, по словам мэра столицы Юрия Лужкова, чрезвычайного положения вводиться не будет. Вводится особый режим, принимаются самые жесткие меры по обеспечении безопасности жителей.





*Пожарные и спасательные службы разбирают завалы, образовавшиеся на месте взорванного утром 13 сентября 1999 г. в Москве жилого дома, в котором насчитывалось 64 квартиры.*

Фото IREX/ProMedia.

## Белград направляет в Косово экстремистов

Министр внутренних дел Великобритании Джек Стро обсуждает сегодня с главой службы контрразведки Стивеном Ландером вопрос о том, почему британская гражданка Мелита Норвуд, годами занимавшаяся шпионажем в пользу СССР, так и не была передана в руки правосудия. 87-летняя Норвуд на днях сделала официально признание о том, что на протяжении трех с лишним десятилетий передавала СССР сверхсекретную информацию о британской обороне, в том числе и о разработках ядерного оружия. Британская пресса утверждает, что контрразведка в конце концов напала на след шпионки, работавшей секретаршей в одном из оборонных ведомств, но утаила информацию от властей. Норвуд, живущая в Лондоне, заявила, что занималась шпионажем в пользу СССР из идеологических соображений.

## Мир культуры

### Кто откроет сезон в Метрополитен-опера?

Объявлено, кто примет участие в открытии очередного сезона нью-йоркской Метрополитен-опера 27 сентября. В "Паяцах" Леонкавалло главную мужскую партию исполнит Пласидо Доминго и таким образом превзойдет достижение Энрико Карузо, который открывал метрополитеновские сезоны 18 раз. В главной женской роли — Вероника Вилларуэль. Она также выступит в опере Арриго Бойто "Мефистофель" вместо первоначально заявленной на роль Маргариты Марии Гулегиной.

### Вещи Монро покажут в Нью-Йорке, Лондоне и Париже

Несколько десятков различных предметов, некогда принадлежавших Мэрилин Монро, выставлены во флоридском городе Сент-Питерсберге. В основном это детали одежды и украшения, в том числе кольцо, подаренное актрисе в день свадьбы одним из ее мужей — звездой бейсбола Джо Димаджио. Далее экспозиция переедет в Нью-Йорк, а затем в Лондон и Париж. Путешествующая выставка играет роль рекламной кампании перед тем, как более 1500 вещей Мэрилин Монро будут выставлены на продажу на аукционе Кристис в Нью-Йорке 27 и 28 октября.

## Эврика!

### Эффективная методика защиты от облучения

Ученые из Израиля и США успешно испытали на животных новую методику защиты организма от осложнений, вызванных облучением и химиотерапией.

Подопытным мышам вводили химическое соединение пифитрин-альфа, которое временно отключает ген, вызывающий гибель клеток с поврежденными наследственными структурами. Этот ген не только выбраковывает клетки, испытавшие злокачественное перерождение, но также убивает нормальные клетки, слегка задетые проникающей радиацией либо химиопрепаратами. Мыши, которым давали пифитрин, не пострадали от высоких доз гамма-лучей, уничтоживших 60 процентов животных контрольной группы. Разработчики надеются через год начать испытания нового лекарства в онкологических клиниках. Сообщение об этих экспериментах опубликовано в журнале Science.

### Против камней

Регулярные физические нагрузки значительно снижают вероятность образования камней в желчном пузыре у женщин среднего и пожилого возраста. Таковы результаты гарвардских медиков, чью работу 9 сентября напечатал New England Journal of Medicine. Майкл Литцманн и его ассистенты с середины 80-х годов регулярно анкетировали свыше 60 тысяч женщин, ни одна из которых в начале обследования не страдала желчнокаменной болезнью. Статистический анализ собранных данных привел ученых к выводу, что ежедневные 30-минутные упражнения на треть уменьшают шансы возникновения камней.

### Духи и кошки

Сотрудники Далласского зоопарка обнаружили, что оцелоты питают непреодолимую слабость к хорошим духам. Духи "Obsession" от Калвина Клайна приводят этих грациозных пятнистых кошек в возбуждение. Специалисты объясняют это тем, что в состав духов входят вытяжки из анальных желез змеи и компоненты крысиной мочи. Зоологи полагают, что использование душистых приманок поможет сохранить быстро сокращающуюся популяцию оцелотов.

## Мы павінны памятаць пра верасень 1939 года

*Заява Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны*

17 верасня 1939 года пачалося ўз'яднанне беларускай нацыі ў межах адной дзяржавы. Гэтай падзеі папярэднічалі 39 гадоў трагічнай гісторыі Беларусі першай паловы XX ст.

У пачатку XX ст. у выніку дэмакратычных заваёў рэвалюцыі 1905 года беларусы зноў паступова пачалі набываць сваю этнічную адметнасць, адраджаць сваю мову, гісторыю і культуру. Гэтыя працэсы разгарнуліся на ўсёй этнічнай беларускай тэрыторыі, населенай 12-мільённым этнасам.

Аднак гэтае адраджэнне было спынена на пачатку першай сусветнай вайной, а потым і бальшавіцкім пераваротам 1917 года. У выніку гэтых падзей Беларусь страціла мільёны жыхароў, шмат хто апынуўся за межамі Бацькаўшчыны. Але 25 сакавіка 1918 года паўнамоцныя прадстаўнікі шматнацыянальнага беларускага народа абвясцілі ў Менску нашую незалежнасць на ўсёй сваёй этнічнай тэрыторыі.

Бальшавікі ў Смаленску мусілі 1 студзеня 1919 года пацвердзіць гэты лёсавызначальны акт і ўключыць у межы ССРБ усе беларускія землі. Аднак ужо праз некалькі тыдняў яны пачалі гандляваць нашай Бацькаўшчынай, і ў выніку дамоваў 1920 года з Латвіяй і Літвой, а таксама ў выніку ганебнай Рыжскай дамовы 1921 года ў межах БССР засталіся толькі шэсць паветаў былой Менскай губерні.

На тэрыторыі Заходняй Беларусі рэжым Пілсудскага пачаў татальнае вынішчэнне ўсяго беларускага, а на тэрыторыі БССР пасля некалькіх гадоў нацыянальнага адраджэння распачаліся масавыя рэпрэсіі і ўзніклі шматлікія Курапаты.

У жніўні 1939 года пасля пакту Молатава і Рыбентропа быў здзейснены новы еўрапейскі падзел, які выклікаў у верасні другую сусветную вайну. 1 верасня фашысцкія бомбы ўжо падалі на Гродна, Брэст і Баранавічы, а тысячы беларускіх юнакоў былі забраныя ў польскае войска і гінулі на польскай тэрыторыі.

Неўзабаве, 17 верасня 1939 г., беларускія сяляне, якія былі ў польскай дзяржаве людзьмі другога гатунку, з музыкай і кветкамі сустракалі Чырвоную армію.

Дзве вялікія часткі Беларусі — Заходняя і Усходняя — нарэшце аб'ядналіся дзякуючы часоваму супадзенню савецка-нямецкіх глабальных інтарэсаў. Потым, 30 кастрычніка 1939 г., былі перададзены Літве беларуская Вільня, Трокі, а крыху пазней — Друскенікі. Страчаны Беласток з добрым кавалкам Белавежскай пушчы. Аднак ядро беларускіх земляў засталося захаваным да абвяшчэння незалежнасці ў 1991 годзе.

У сувязі з сённяшнімі інтэграцыйнымі гульнямі ТБМ нагадвае іх удзельнікам аб бясплённасці такіх намераў. Новай Рыжскай дамовы ўжо ніколі не будзе!

## Рэха

### Фальшывыя спевы красуні з ружай

Не крыўдуйце на мяне, мілыя чытачкі "Народнай волі", калі я нагадаю заўвагу Праспера Мерыме, які лічыў: жанчына губляе палову сваёй прывабнасці, калі пачынае гаварыць...

Аднойчы ўсунулі мне ў рукі газету "Ва-банкъ", разгортваю — бачу цудоўны здымак жанчыны з ружай. Прыгожая такая, бы тая ружа, усміхаецца такой цёплай, шчырай, добрай усмешкай. Зверху рубрыка "Чалавек в... песнях" і загаловак: "Как человек поет, так он и живет". Ну, думаю, спявачка. Ва ўступе — аб рэспубліканскім конкурсе на лепшую песню пра Мінск, а далей інтэрв'ю з загадчыцай кафедры псіхалогіі БДПУ ім.Танка кандыдатам псіхалагічных навук Надзеяй Александраўнай Цыркун. Значыць, думаю я, не прафесійная спявачка — самадзейная. Але ўсё роўна цікава. Пачаў чытаць і зразумеў, што спевы тут ні пры чым, гэта матэрыял пра дзяржаўныя сімвалы з пункту погляду псіхолага. Псіхолаг жа — яна, чароўная красуня з ружай.

Але выказванні гэтай жанчыны аказаліся не такімі прыгожымі, як яна сама. Больш таго — абурылі. Нават не верылася, што так можа разважаць вучоны, інтэлігент, культурны чалавек. Завёўшы размову пра гімны, гэтая псіхалагіня сцвярджала: "Как человек поет, так он и живет". Значыць, калі будзе добры гімн — зажывём заможна? І ўсе праблемы вырашацца самі сабой? Між тым, як вядома, людзі спявалі і спяваюць заўжды — у радасці і горы, падчас цяжкай працы і ў вольную хвіліну. І выбар песні залежыць ад стану душы, настрою, характару абставін. На ўсе выпадкі жыцця ў народа свая песня: вясельная, абрадавая, бытавая. Галашэнні над памерлым — гэта таксама песня.

Спадарыню Цыркун больш за ўсё займае гімн. На маю думку, гімн — гэта нешта такое, што ўзвышае, гучыць апафеозам здзейсненаму маімі продкамі, мною, сучаснікамі, гэта заклік да стварэння будучыні. Гукі яго павінны вымушаць чалавека падняцца, а не стаяць пад прымусам, "для усиления психологического воздействия", як сцвярджае псіхолаг: "Ведь тогда он не расслаблен во время звучания гимна, а напряжен". Усё жыццё я стаю пад гукі гімна ў знак павагі, пашаны да сваёй дзяржавы, а высвятляецца — да змушанага праграміравання майго жыцця.

Гімн СССР спадарыня Цыркун узносіць да нябёсаў. У параўнанні з беларускім, ён "более конструктивный — он описывает, к чему надо стремиться и что ты можешь проявить. Может быть, этим и объясняется такая ностальгия у народа по Союзу: с его гимном люди себя чувствовали комфортнее." Вось, аказваецца, у чым сакрэт: пры гуках гімна СССР чалавек адчуваў сябе "камфортна" нават і не ў вельмі камфортных умовах савецкага жыцця, і сённяшнім ветэранам здаецца, што яны зноў вяртаюцца ў тыя часы...

Чалавеку, выхаванаму на ідэалах любві да Радзімы, яе гісторыі, на прыкладах яе славутых і ўласных продкаў, свайго дачынення да яе лёсу, гімн будзе заўжды святыняй — незалежна ад таго, гаротная яго Радзіма ці заможная, добраўладкаваная. Адарвіце ад чалавека ўсё гэта — і гімн ператворыцца ў пустую фармальнасць, што і назіралася раней, ды і зараз.

Выказванні пра сцяг і герб Беларусі ў кандыдата псіхалагічных навук таксама не грунтуюцца на навуковых доказах, адны домыслы ды спасылкі на нейкага Люшэра з яго станоўчай ацэнкай спалучэння колераў зялёнага з чырвоным.

Не судзіце і не судзімы будзеце! Пэўна, не вядомы хрысціянскія каштоўнасці Надзеі Аляксандраўне, бо інакш не зразумець яе ацэнку хрысціянскага спалучэння колераў белага і чырвонага (кроў Хрыста на плашчаніцы) як... "медицинской атрибутики". Адным словам, клініка ў галовах гэтых "нацыяналістаў".

Вучоная красуня ўжо не здаецца мне такой прыгожай, калі крыўдзіць нацыянальна свядомых беларусаў сваімі разважаннямі о "Погоне со всадником", які "то ли падает, то ли собирается на кого-то этот меч опустить, то ли конем кого-то топчет", і нашым святым бел-чырвона-белым сцягу, які яна параўноўвае з лукашэнкаўскім: "У нас получше. Только зря убрали Серп и Молот".

Увогуле, не "песня", а плач па мінулых савецка-імперскіх часах уяўляе сабой публікацыя ў газеце "Ва-Банкъ". Так і карціць запытаць Надзею Аляксандраўну, з чыіх слоў яна спявае?

Мікола ЛАВІЦКІ,
тэрміст тэрмагальванічнага цэха
Мінскага аўтазавода.

## Зрабі дабро блізкаму

### "Нічые" грушы — у падарунак немаўлятам-сіротам

У двары шматкватэрнага дома па вуліцы Парыжскай Камуны ў Слуцку сёлета ўрадзіла груша, пасаджаная невядомым домаўласнікам-прыватнікам яшчэ да таго, як на гэтым месцы пачалося будаўніцтва жылога мікрараёна. Дрэва вымахала аж да ўзроўню чацвёртага паверха, крона ў ім шырокагалінастая, плады — буйныя, але позняспелыя. Гэта зусім не ўлічвалі хлапчукі з усіх навакольных дамоў, выпадковыя прахожыя: з сярэдзіны лета штодня ўсе калацілі грушу, хто чым мог — кіямі, каменнямі, цаглінамі; некаторыя хлапчукі залазілі на дрэва і трэслі галіны: плады падалі на асфальт двара і разбіваліся. У нас так павялося сярод дзяцей: ніхто не хоча чакаць, пакуль яблыкі ці грушы паспеюць — пачынаюць "каштаваць" з завязі.

Нарэшце хтосьці з жыхароў дома №11 па гэтай вуліцы даў работнікам жыллёва-эксплуатацыйнага ўпраўлення №1 карысную параду: уцалеўшыя на верхніх галінах грушы атрэсці з мерамі перасцярогі (каб не разбіліся) і перадаць у Дом дзіцяці, дзе знаходзіцца на ўтрыманні звыш за 50 немаўлят-сірот, бацькі якіх за амаральныя паводзіны, распусны лад жыцця ў судовым парадку пазбаўлены правоў на іх выхаванне. Арганізавала гэтую гуманітарную аперацыю начальнік ЖЭУ-1 Ларыса Іванаўна Гілеўская. Работнікі Дома дзіцяці былі ўзрадаваны нечаканаму падарунку, малыя — тым больш. У двух вялікіх цэлафанавых пакетах ім прывялі каля дваццаці кілаграмаў буйных, памерам з гусінае яйка, сакавітых груш.

Міхась ТЫЧЫНА.
Слуцк.

## Грамадзяне Беларусі могуць удзельнічаць у конкурсах на навучанне ў ЗША

Інфармацыйная служба Пасольства ЗША ў Беларусі (USIS) абвясціла аб пачатку новага цыкла адукацыйных праграм у ЗША на 1999—2000 гады, якія фінансуюцца ўрадам гэтай краіны. Да ўдзелу ў праграмах запрашаюцца грамадзяне Беларусі, якія валодаюць англійскай мовай.

На сённяшні дзень заявы прымаюцца па наступных праграмах:

конкурс стыпендый імя сенатара Фулбрайта (для грамадзян Беларусі, якія выкладаюць у ВНУ і займаюцца навукова-даследчай дзейнасцю, а таксама маюць ступень кандыдата ці доктара навук). Заявы прымаюцца да 29 кастрычніка;

праграма "Актуальныя пытанні сучаснасці" (для супрацоўнікаў урадавых устаноў, кіраўнікоў няўрадавых арганізацый і прадстаўнікоў іншых прафесійных аб'яднанняў). Заявы прымаюцца да 29 лістапада;

праграма навуковага абмену "Рэгіянальныя навукоўцы" (для спецыялістаў, якія працуюць над кандыдацкай дысертацыяй, і для іншых навуковых даследчыкаў). Заявы прымаюцца да снежня;

конкурс стыпендый імя сенатара Эдмунда Маскі (для студэнтаў апошняга курса ВНУ і асоб з вышэйшай адукацыяй). Заявы прымаюцца да 29 кастрычніка;

праграма студэнцкіх абменаў "Акт у падрымку свабоды" (для студэнтаў першых трох курсаў ВНУ Беларусі). Заявы прымаюцца да 10 лістапада;

праграма школьных абменаў "Акт у падтрымку свабоды" (для старшакласнікаў сярэдніх школ).

Пасля заканчэння кожнай праграмы ўдзельнікі павінны вярнуцца на радзіму на перыяд не менш за два гады. Яны не могуць вучыцца ці працаваць у ЗША на працягу гэтага тэрміну.

Дадатковую інфармацыю можна атрымаць па наступных тэлефонах:

— USIS Мінск (017) 217-88-28
— IREX Мінск (017) 226-06-87
— ACCELS Мінск (017) 236-68-83
— Мінскі інфармацыйна-адукацыйны цэнтр (017) 284-08-52
— Брэсцкі інфармацыйна-адукацыйны цэнтр (0294) 77-15-84
— Віцебскі інфармацыйна-адукацыйны цэнтр (0212) 37-83-42
— Гомельскі інфармацыйна-адукацыйны цэнтр (0232) 53-29-10
— Гродзенскі інфармацыйна-адукацыйны цэнтр (0152) 33-54-51

Аляксей ЗНАТКЕВІЧ.

## Пры ўдзеле прадстаўнікоў Брытаніі ў Светлагорску пачалася рэалізацыя праекта па вырашэнні праблемы стварэння безадходнай вытворчасці

У Светлагорску (Гомельская вобласць) пры ўдзеле акругі Мендзіп (Вялікабрытанія) упершыню ў Беларусі пачалася рэалізацыя эканоміка-адукацыйнага праекта па вырашэнні праблемы стварэння безадходнай вытворчасці.

Сутнасць праекта заключаецца ў тым, што школьнікі старэйшых класаў і прадстаўнікі якога-небудзь прадпрыемства, якое мае шкодныя або вялікую колькасць сабраных адходаў, абмяркоўваюць праблему іх другаснага выкарыстання. Прадстаўнікі Вялікабрытаніі ўпэўнены, што маладое пакаленне, якое валодае дапытлівым розумам, здольнае прапанаваць новыя ідэі выкарыстання адходаў. Затым шляхам эксперыменту выбіраецца аптымальны варыянт, варты ўкаранення на практыцы.

Праект разлічаны на два штотыднёвыя факультатыўныя заняткі на працягу трох навучальных чвэрцяў. Апрача беззумоўнай дапамогі вытворцу, школьнікі, у сваю чаргу, атрымліваюць магчымасць удасканальваць сваё веданне англійскай мовы (з імі будуць працаваць і спецыялісты з Вялікабрытаніі), а таксама ж пашырыць кругагляд і выпрабаваць на сабе навыкі розных прафесій.

Паводле сцвярджэння аднаго з менеджэраў праекта Дамініка Фелдэна, дадзеная праграма карыстаецца вялікай папулярнасцю ў Вялікабрытаніі. Кафедральная школа Уэлса і хімічная кампанія "ICI" былі нават адзначаныя ганаровай узнагародай "Жывая планета Зямля" за паспяховае супрацоўніцтва, якое дазволіла знайсці каштоўны спосаб выкарыстання аднаго са шкодных для навакольнага асяроддзя пабочных прадуктаў.

Ірына МАКАВЕЦКАЯ.

## Личная переписка

# Америка – страна парадоксов

***В редакцию "Народной воли" обратилась наша читательница Лариса Анатольевна с предложением опубликовать письма эмигрировавших в Америку родственников.***

***Семен Моисеевич и Раиса Павловна Дейчи эмигрировали в Соединенные Штаты Америки уже в преклонном возрасте вместе с сыном, невесткой и двумя внуками. Решение покинуть Родину было выстраданным и осознанным. Они не надеялись на счастливую и обеспеченную старость на чужбине и уезжали ради будущего своих детей и внуков.***

***Семена Моисеевича несколько раз награждали медалями выставки ВДНХ СССР. Он был изобретателем всесоюзного значения (это звание присваивалось только в том случае, если изобретение приносило государству более одного миллиона рублей в год), автором книги о воздушных электрических линиях, прорабом первой в СССР стройки ЛЭП-500 — линия электропередачи на Урале.***

***Много лет он работал в Белорусском энергосетевом проектном институте в должности главного инженера. Однажды один из сотрудников института принес магнитофонную запись политических анекдотов, записанных с радиостанции "Голос Америки". Все хохотали, а назавтра вышел приказ об увольнении любителей политического юмора "без права трудоустройства на руководящие должности". С этого момента и начались проблемы: КГБ усердно выполняло свой долг, и очень долгое время Семен Моисеевич был безработным. Выручил случай. Его бывший однокурсник, возглавлявший один из минских электромонтажных трестов, на свой страх и риск принял Семена Моисеевича на должность исполняющего обязанности старшего инженера, где он и проработал до самой пенсии.***

***Семье Дейч с первого раза в Посольстве США присвоили статус политических беженцев, и они покинули страну 14 марта 1996 года.***

***И потекла вереница необычных и интересных писем...***



## Письмо первое

### Другая планета

*Бруклин, 19 июня 1996 года.*

Здравствуйте, Лариса и Виктор!

Вот уже более трех месяцев, как мы живем под чужим небом. США — это не только другое государство, а, как здесь говорят, другая планета. Все не так, как у нас. Все не то, к чему мы привыкли. Здесь, прежде чем появляются листья, деревья начинают цвести. Бутоны огромные и всех цветов радуги, а листьев нет. В Бостоне очень много деревьев. Такое впечатление, что город утопает в цветах: белых, розовых, желтых, сиреневых и т.д. И только после опадания цветов появляются листья. Сплошной зеленый массив. Кстати, о зелени. Большинство крыш домов, карнизы, купола, фигуры на домах и памятники выполнены из меди, а так как медь окисляется (очевидно, сказывается близость океана), то кругом все зеленое. Зелень какого-то своеобразного оттенка, как бы "под старину".

Я об этом пишу так подробно потому, что меня это поразило: как можно так много тратить меди. Но американцы на это не обращают внимания. Более того, все водопроводные трубы изготовлены из меди, радиаторы отопления — тоже из меди, но они не такие громоздкие, как у нас, хотя поверхность обогрева значительно больше — за счет лепестков. Я спросил у хозяина нашего дома, зачем же тратить столько меди. Мне ответили: с медью работать легче, чем с другим материалом.

Вообще, американцы работают так, чтобы было все легко делать, с минимальной затратой мускульной и мозговой энергии. Тысячи приспособлений, кранов, полная компьютеризация. Как говорят у нас, сверху донизу. Я наблюдал такую картину. К многоэтажному дому подъехала машина с мебелью. Одновременно подъехала машина с пожарной лестницей. Оказалось, что это не лестница, а подъемник мебели. И в течение каких-то десяти минут вся мебель через окно была доставлена в квартиру на 5 этаж.

Мы строили крупные теплоэлектроцентрали, районные котельные, прокладывали многокилометровые теплотрассы, в домах устанавливали громоздкие бойлерные установки и т.д. и т.п. Здесь — все иначе. Каждый дом имеет свою автоматическую котельную либо на газе, либо на дизельном топливе. Наш дом небольшой, четырехэтажный, на восемь квартир. В подвале своя автоматическая котельная на солярке. Вы бы посмотрели на эту котельную — "смеху варта", как у нас говорят! Она занимает площадь не более четырех квадратных метров. По графику к дому подъезжает бензовоз и по трубопроводу сливает топливо. И все. И никаких проблем.

В каждой квартире ты можешь выключить полностью отопление либо установить необходимую температуру обогрева.

Наш дом старый, и отопление радиаторное. В современных же домах — централизованное кондиционирование. В подъездах стоят кондиционеры, и в квартиры подается пологретый либо охлажденный воздух соответствующей влажности, какая тебе необходима.

Времени после нашего отъезда прошло вроде немного, но событий произошло — не счесть.

Мне сделали операцию на сердце. Дело в том, что каждый, кто законно приезжает в Штаты, в течение 2-х недель должен пройти обязательное медицинское обследование. Во время обследования у меня признали заболевание сердца, срочно выдали "Медикейт" — право на бесплатное лечение и бесплатное получение лекарств — и направили в госпиталь к кардиологу. В госпитале провели тщательное обследование и установили необходимость операции. Я дал согласие. Вначале было произведено зондирование, т.е. к сердцу через сосуды направили "телевизионный датчик". Все сфотографировали. Зондирование проходило под местным наркозом, и я чувствовал, где находится зонд. Кроме того, врачи через переводчика сообщали, что осталось заснять 10 картинок, 5 картинок, сейчас будет жарко и т.д. Это, чтобы я не волновался. И только после зондирования определили, что необходима срочная операция.

В госпитале, где я лежал, в каждую палату (обычно в палате — два человека, по нашим меркам в нее можно поместить не менее девяти человек) подается кондиционированный воздух. В один из дней мне было прохладно. Я сказал об этом медперсоналу. Они тут же отрегулировали так, чтобы мне было комфортно.

Вообще, можно заказать все, что тебе угодно. К примеру: по телефону можно заказать, чтобы по телевизору в такое-то время показали такой-то фильм. Заказ выполняется в указанное тобой время. Правда, за это надо платить 3—4 доллара.

У нас говорили, что в Штатах нет паспортов, и что самое главное удостоверение — это права на вождение автомобиля. Это вовсе не так. Здесь каждый законно живущий человек пронумерован. Первое, что должен сделать каждый законно прибывший в США человек, — получить свой номер. Независимо от возраста. Этот номер и все данные о тебе закладываются в компьютер. Номер один — от рождения и до смерти. Под этим номером в памяти компьютера вся твоя родословная: откуда ты, кто твои родители и т.п.

Мы пришли для установления нам пенсионного пособия. Кстати, каждому из нас оно установлено в сумме 450 долларов и 86 центов ежемесячно, в Союзе последняя наша пенсия составляла на двоих около 110 долларов. Чиновник, хорошо говоривший по-русски, взял наши документы с номерами — а это всего лишь картонная карта размером чуть больше спичечного коробка, без фотографии, визитка — и обратился к компьютеру. И тот в течение одной-двух минут выдал полную информацию о нас. К нашему удивлению, там были, в частности, указаны девичьи фамилии наших матерей и даты их рождения и смерти.

Без этого номера тебя не примут на работу, ты не сможешь сдать на водительские права, поступить в школу. Иначе говоря, если ты законный житель США, то должен быть пронумерован. В противном случае ты нелегально живешь в Штатах и при первом же задержании на тебя надевают наручники и депортируют в ту страну, которая готова тебя принять. А до этого — сиди в "каталажке".

Здесь существует "иерархия". Если ты получил статус "беженец" — значит, ты — "законный житель" и пользуешься определенными правами, но выехать за пределы Соединенных Штатов тебе нельзя. И в случае выезда, например, в Канаду, обратно в Штаты тебя не пустят. Никогда. Такой режим соблюдается в течение года. По окончании года, если ты не проштрафился, тебе выдают "Гринкарт" (зеленую карточку) и тем самым как бы присваивают статус "постоянный житель США".

Имея Гринкарт можно выехать куда хочешь и на какой угодно срок. Возврат в США беспрепятственен. Единственное, в других странах ты не пользуешься опекой Соединенных Штатов. Спустя пять лет после приезда тебе разрешают стать гражданином США. Для этого надо сдать экзамен и принять присягу. В случае получения гражданства ты пользуешься всеми правами гражданина и покровительством Соединенных Штатов за пределами страны.

Я не знаю, интересно ли то, о чем пишу. Но я рассказываю о первых своих впечатлениях.

Дело в том, что повторять то, о чем знают все — ах, Америка, ой, Америка — мне не представляется интересным. Не это главное. Главное в том, чтобы понять ее. Узнать обычаи, нравы. В последующих письмах я постараюсь снова вернуться к своим первым впечатлениям.

Меня мучает ностальгия. Не могу забыть прошлое. Тоскую.

Родные мои, уделите нам часок-другой и напишите, как там у вас. Пусть даже плохое, но это свое, родное. А здесь — хорошее, но чужое, не наше. Поддержите нас в трудную минуту. Не откладывайте ответ на завтра. Передайте привет всем родным и близким.

